# Тыднёвік Магілёўскі

Тыднёвік Магілёўскі

№ 17 (158) 26 красавіка – 2 траўня 2002 г. Кошт 100 руб.


## За 8 km ад былога эпіцэнтру

***... Журналісцкая турбота прывяла на дасьледна-экспэрымэнтальную станцыю ў адселенай вёсцы Бабчын (Гомельская вобласьць).***

*Намесьніца дырэктара па навуковай працы, кандыдат біялягічных навук Любоў Чарнега ня стала хаваць, што патэнцыйная небясьпека для атрыманьня тут пэўнай дозы радыяцыі існуе, нягледзячы на пастаянны кантроль за вадой і на забарону збору ягадаў, грыбоў, а таксама лоўлі рыбы й паляваньня.*

*Яна ўзяла мяне ў паездку на пункт радыялягічнага кантролю, што абсталяваны непадалёк ад Чарнобыля, на поўдні. Дарога тут, у зоне, ужо 16 год ня ведае, што такое асфальтавы каток. Едзем па бруку, якому не адно стагодзьдзе. Бачна, што з таго часу, як адсюль сышоў чалавек, прырода ачуняла. Мэліяраваныя палі зноўку сталі балотамі, якія аж варушацца ад зьмеяў. Што да расьлінаў, то прадстаўленая ледзь ня ўся наша Чырвоная кніга: ласі, ваўкі, дзікі і зубры адчуваюць сябе тут сапраўднымі вольнымі гаспадарамі.*

*На пункце нас сустракаюць некалькі чалавек (усяго іх – 7), якія вахтавым мэтадам кантралююць радыяцыйныя паказчыкі, рэгіструюць зьмяненьні фону і сочаць за надвор'ем. Адзін зь іх, Эдуард Серж, гаворыць, што калі б ваўкі зрабілі нечаканы напад на станцыю, то абараняцца было б складана: ніякай зброі няма. Пакуль, аднак, людзі і зьвяры суіснуюць мірна. Магчыма таму, што разам баяцца і абыходзяць месца пахаваньня мэталу з Чарнобыльскай станцыі, дзе фон складае больш за 15 тысяч рэнтгенаў!*

*Да самога Чарнобыля праз лес усяго нейкіх 8 кілямэтраў. З назіральнай вежы добра бачныя рэактар і мястэчка Прыпяць. Вакол – цішыня і падманлівы спакой. Нават узьнікала жаданьне пасяліцца сярод гэтых маляўнічых палёў, лясоў і балотаў. Але ўвесь час з паказальніку дазімэтру на мяне глядзелі трох- і чатырохзначныя лічбы ўзроўню радыяцыі.*

*Аднак жа тут жывуць сотні людзей. Яны адкрыта гавораць, што іх мала турбуюць праблемы суайчыньнікаў і ўладаў, як увогуле – жыцьцё на чыстых тэрыторыях. Яны ведаюць, што й да іхнага жыцьця мала каму ёсьць справа...*

**Міхал СТЭЛЬМАК**
**(урывак з рэпартажу на радыё "Свабода")**



Фота IREX






## Тут свае правілы й нормы

***Зьнешняе атручваньне (праз вонкавае пранікненьне ў арганізм чалавека радыяцыйных іёнаў) складае толькі трацiну мэдыцынскіх праблемаў беларускага насельніцтва.***

*Усё астатняе – гэта прадукты харчаваньня.*

*Аднак падаецца, што гэта клапоціць толькі мэдыкаў, якія штогод канстатуюць падвышэньне колькасьці адпаведных захворваньняў. Кіраўнікі харчовых галінаў краіны, мясцовыя адміністрацыі ў гэтай праблеме супакойваюцца на тым, што беларускія нормы розных дапушчальных паказчыкаў "больш жорсткія, чым у Расеі". Пры гэтым гаворка вядзецца выключна пра так званы грамадзкі сэктар сельскай гаспадаркі, папросту – калгасы й саўгасы, дзе можна ўжыць адміністратыўныя мэтады ўзьдзеяньня.*

*Аднак жа самое вясковае насельніцтва збольшага спажывае прадукты ўласных падвор'яў, не пазіраючы на навуковыя "рэкамэндацыі, нормы і кантроль". Ды й ня мае яно сродкаў і магчымасьцяў уплыву на якасны складнік вынікаў свайго гаспадараньня.*

*Для выпасаў прыватнай жывёлы, як вядома, выдзяляецца самая бедная паша, да якой з году на год не даходзіць праграма пераразалужэньня. Няма як падтрымаць карміцельку-кароўку зімой, бо камбікармы ў прыватным продажы не абагачоныя, паколькі для вяскоўца важная цана гэтых мехаў, а ня "зьмест". Рэдка хто ў вёсцы мае ўмовы для клопатаў пра "гігіену вытворчасьці".*

*Усё разам спрыяе таму, што вясковы прыватны гаспадарчы сэктар жыве сваім асобным жыцьцём і амаль не трапляе пад антычарнобыльскія мерапрыемствы. Вяскоўцы такім чынам спажываюць, што маюць, ды яшчэ дадаюць да стала атручаныя "дары" лесу і рэчкі...*

*Дарэчы, 5 гадоў таму ў краіне было 370 пунктаў радыяцыйнага кантролю прадуктаў харчаваньня. Цяпер іх 83.*

***Паводле матэрыялаў мэдычнага друку***

## У знак горкай памяці

Кіраўнікі грамадзкіх дэмакратычных арганізацыяў абласнога цэнтру вызначылі фармат і зьмест удзелу сваіх прадстаўнікоў у адзначэньні чарговай гадавіны з дня Чарнобыльскай трагедыі.

Было вырашана, што пасьля адмыслова замоўленых на сёньня ў Царкве і Касьцёле "чарнобыльскіх набажэнстваў" будзе наладжаная традыцыйная Хвіліна смутку і жалобы, да якой бліжэй да 19-й гадзіны зможа далучыцца любы гараджанін ці магілёўскі госьць. Хвіліну маўчаньня і памяці з запаленымі сьвечкамі ў руках дэмакраты ладзяць, як заўсёды ў апошнія некалькі гадоў, на галоўнай вуліцы абласнога цэнтру блізу прыпынку грамадзкага транспарту "Гатэль "Дняпро". А напярэдадні Дня жалобы група магілёўскай патрыятычнай моладзі добраўпарадкавала "чарнобыльскі ўзгорак" непадалёк ад "лаўсанаўскіх" могілак.

Сёньня ж непасрэдна ў палітычных і грамадзкіх арганізацыях пройдуць кароткія сходы, інфармацыйныя выступы й жалобныя памінаньні...

Ініцыятары прыстойнага адзначэньня Чарнобыльскай гадавіны спадзяюцца, што шмат хто з насельнікаў вобласьці хаця б на некалькі хвілінаў запаліць адмысловую сьвечку гэтым вечарам у сваіх кватэрах і хатах у горкую памяць аб нацыянальным уроне, які прынёс і працягвае несьці беларускаму грамадзтву радыяцыйны выбух 16-гадовай даўніны...

## Лепш пачынаць з свайго ўсьведамленьня

***Бягучы тыдзень адзначыўся па-за лекарскай актыўнасьцю магілёўскіх доктараў, якая аднак была цалкам скіраваная на дасягненьне плёну менавіта ў штодзённай будзённай працы.***

**Учора** пачаў працу трохдзённы міжнародны мэдычны сэмінар па тэме "СНІД і Чарнобыль". Ініцыяваньне яго належыць ўсходнеэўрапейскаму прадстаўніцтву Сусьветнага банку. Са свайго боку беларускае Міністэрства аховы здароўя прыняло арганізацыйны ўдзел у падрыхтоўцы сэмінара, бо справядліва ацаніла надзвычайную патрэбнасьць прафэсійнай гаворкі на тэму, зь якой усё часьцей сутыкаюцца доктары, што працуюць у сфэры пераадоленьня наступстваў чарнобыльскай трагедыі. У сэмінары таксама бяруць удзел калегі з Расеі й Украіны.

**Сёньня** актывісты магілёўскага грамадзкага аб'яднаньня "Лекарскі саюз" распачалі сэмінар на тэму "Грамадзянская супольнасьць – шлях да посьпеху". Адметна, што менавіта доктары й іншыя мэдычныя працаўнікі ўсё больш разумеюць, што ахова здароўя як сацыяльна-эканамічная галіна ня можа добра пачувацца ў стане адасобленасьці ад грамадзка-палітычнага жыцьця і свайго дзейнага ўплыву на ўсе інстытуцыі, што складаюць самое паняцьце дзяржавы і грамадзянскай супольнасьці. Пра гэта й пойдзе зацікаўленая гаворка на сэмінары, тым больш, што "ЛС" мае пэўныя здабыткі на шляху настойлівага і эфэктыўнага далучэньня лекараў да прафэсійна-грамадзкага яднаньня ў мэтах калегіяльнага пераадоленьня цяжкасьцяў і праблемаў галіны, якіх не становіцца менш.

**Заўтра** пры ўдзеле прадстаўнікоў абласнога і гарадзкога ўпраўленьняў аховы здароўя шэраг грамадзкіх арганізацыяў сацыяльнага кірунку адчыняць канфэрэнцыю-сэмінар на тэму праблемаў сацыяльнай рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў. Удзельнікі сэмінара спадзяюцца пазьбегнуць звычайнай для гэтай тэмы гаворкі аб праблемах выключна праз "прызму спажывецтва" і пошуку "матэрыяльных інвэстараў". У гэтай праблеме разам з тым шмат маральных, духоўных, выхаваўчых, асьветніцкіх і падобных да іх нюансаў і складнікаў. Шчыра абмеркаваць гэта падчас адкрытай гаворкі паміж зацікаўленымі арганізацыямі – вось асноўная задача дзелавой сустрэчы іхных прадстаўнікоў.

***Уласная інф.***

## ... Як полымя і вада

Намесьнік кіраўніка амбасады ЗША ў Беларусі Джозэф П. О'Ніл назваў падпальваньне валанцёрскага намёту ў Курапатах "страшным і сур'ёзным злачынствам супраць правоў чалавека".

Ад імя свайго ўраду ён выказаў надзею, што беларускі ўрад "хутка знойдзе тых, хто зьдзейсьніў гэты жудасны акт". Дыплямат таксама спадзяецца, што ўлады Беларусі забясьпечаць лячэньне тых, хто пацярпеў ад акту вандалізма.

... Падчас свайго шматгадзіннага выступу з "прэзыдэнцкім пасланьнем" Лукашэнка ані словам не закрануў Курапаты.

***Паводле прэс-групы АГП***



## Свой погляд на тыдзень вобласьці

У вобласьці створаны чарговы штаб па ўборцы ўраджаю. Зноў важная справа ў выкананьні дзяржавы пераўтварылася ва "усенародную барацьбу за...". Між тым, наяўнасьць штабу не дапаможа, бо нават афіцыйныя паведамленьні ўжо не хаваюць крытычнага фінансовага стану сельскагаспадарчых арганізацыяў. Іхная крэдыторская запазычанасьць, напрыклад, дасягнула 128 мільярдаў рублёў. Але ў штабісцкіх загадах і дырэктывах "назапасіць, засеяць і апрацаваць", можна не сумнявацца, недахопу ня будзе. Тут адпрацуюць як трэба. А можа, што й само вырасьце? Калі яшчэ тая восень...

Штогод разам з пасяўной пачынаецца цяжкая праца ў міліцыянтаў. Бо крадуць калгасьнікі шмат чаго: ад паліва да самой тэхнікі. І з кожным годам маштабы крадзяжоў павялічваюцца. Натуральна, што людзям трэба сем'і карміць, а ім па паўгады й больш не выплочваюць заробкаў. Вось і спакушаюцца на дрэнныя ўчынкі. Згодна з дадзенымі міліцэйскай апэрацыі "Аграрнік", за два апошніх тыдні выкрыта паўсотні злачынстваў. Кралі на вёсцы інвэнтар, хімікаты, сельгастэхніку, зерне... А з пачатку году бюджэтныя страты, зьвязаныя з высілкамі вяскоўцаў у названым "накірунку", склалі амаль 300 мільёнаў рублёў. І гэта яшчэ толькі пачатак. А што будзе, калі на палі паедуць дзясяткі і сотні адзінак тэхнікі!

На сёньня магілёўскія навучэнцы ня ўсе бязплатна харчуюцца ў школах: толькі 1770 чалавек з маламаёмасных сем'яў. На астатніх дзяржава выдаткоўвае датацыю ў 400 рублёў. А ўжо з 1-га верасьня карміць за дзяржаўны кошт будуць толькі асабліва незабясьпечаных вучняў 1-4 клясаў. Астатніх, на думку адукацыйнага начальства, павінны будуць поўнасьцю падтрымліваць бацькі. Можна сабе ўявіць, што чакае дзетак, асабліва на вёсцы. І гэта – адзін з страшных вынікаў эканамічнага крызысу, за які дзяржава нясе адказнасьць.

На паседжаньні аблвыканкаму было абвешчана пра наяўнасьць у мясцовай гаспадарцы амаль 1000 (!) незавершаных аб'ектаў будаўніцтва. Агульны кошт усяго гэтага дабра пралічваецца мільярдамі рублёў. Па-сутнасьці ж гэта яскравае пацьверджаньне стану нашай дзяржаўнай эканомікі. Ці будзе руплівы і ашчадны гаспадар вось так будаваць, такім чынам расходаваць свае грошы? Дык мала таго, што давялі да занядбанага стану узьведзенае, – зараз прадаць ня могуць. Кошты на конкурсны продаж выстаўляюць такія, нібыта нешта новае-гатовае прадаюць. Так і стаяць "аб'екты", чакаючы на сапраўднага гаспадара.

*Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў Сымон Глазштэйн.*

## Чым ёсьць нацыянальнае яднаньне

***Менскія ўлады, натхнёныя міліцэйска-судовай перамогай над удзельнікамі нядаўняй акцыі "Так жыць нельга!", адмовілі арганізатарам традыцыйнага "Чарнобыльскага шляху" ў правядзеньні 26-га красавіка шэсьця па праспэкту Скарыны.***

Заяўнікі масавай акцыі (збольшага – кіраўнікі апазыцыйных палітычных і грамадзкіх арганізацыяў) пагадзіліся з прапановай улады: сабрацца каля Акадэміі навук і крочыць адтуль на плошчу Бангалор. У камэнтарах для СМІ яны патлумачылі сваю згоду тым, што дзень Смутку і Жалобы павінен быць днём грамадзкага яднаньня, а не канфрантацыі.

Як тое будзе, нельга сказаць, бо ўжо больш тыдня ў сталіцы адмысловыя абвесткі і ўлёткі заклікаюць людзей сабрацца на плошчы Якуба Коласа, каб далей ісьці на пляц Волі, што можна зрабіць толькі праспэктам. Застацца зь мітынгам на пляцы Коласа – таксама нельга, бо "у дазволе" пазначанае іншае месца. Ісьці на Бангалор, абмінаючы праспэкт, таксама ня вельмі выпадае...

Вось і вараж, што правіцца мацней – нацыянальнае адзінства ці фанабэрыстая непахіснасьць улады...

*"Тыднёвік"*

## Лёгка ім дзівіцца...

***Новая міжнародная ініцыятыва "Менскі заклік-2002" заклікала кіраўніцтва РБ распачаць рэальны дэмакратычны дыялёг з апазыцыйнымі палітычнымі партыямі й грамадзянскай супольнасьцю.***

Ініцыятыва паўстала днямі ў Менску, дзе на запрашэньне БСДП "НГ" знаходзілася дэлегацыя Сацыялістычнага Інтэрнацыяналу на чале з старшынём Камітэту гэтай арганізацыі ў пытаньнях міру, правоў чалавека і дэмакратыі, прэм'ерміністрам Чэскай Рэспублікі Мілашам Зэманам. Яшчэ ў студзені гэтага году Камітэт на сваім паседжаньні ў Швайцарыі вырашыў накіраваць дэлегацыю ў Беларусь для вывучэньня сытуацыі з правамі чалавека.

Пасьля шэрагу неафіцыйных сустрэчаў у Менску (сустрэцца з Лукашэнкам Мілаш Зэман адмовіўся) чэскі прэм'ер заявіў, што наша краіна ўяўляе сабой "палітычны музэй".

Ініцыятары "Менскага закліку" мяркуюць падключыць да ўдзелу ў заахвочваньні Беларусі да дэмакратыі максымальна шырокі спэктар унутраных і зьнешніх партнэраў, сярод якіх – міжнародныя парлямэнцкія структуры. У канцы траўня ініцыятыва будзе абмеркаваная на чарговай сэсіі Сацінтэрну.

*Алесь ДАШЧЫНСКІ*

## "І зноў яны нас вучаць..."

***Калі ўрад Беларусі ня зробіць неадкладных захадаў, краіна апынецца ў яшчэ большым эканамічным тупіку, чым гэта назіраецца цяпер.***

Пра гэта заявіў прадстаўнік Сусьветнага банку Люка Барбонэ, дырэктар аддзелу гэтай установы па Беларусі і Украіне, які днямі гасьцяваў у Менску з адмысловай місіяй.

Цягам апошніх месяцаў стан эканомікі РБ значна пагоршыўся. Спадар Барбонэ выказаў думку, што наступны этап крызысу можа зусім пагоршыць сытуацыю з выплатамі заробкаў і пэнсіяў. Усё разам прывядзе да зьмяншэньня валютных рэзэрваў, што выкліча дэфіцыт харчовых ды іншых тавараў.

Адмысловцы Сусьветнага банку лічаць асноўнай прычынай пагаршэньня сытуацыі леташняе падвышэньне сярэдняга заробку да эквіваленту 100 даляраў. Гэты жэст быў эканамічна неабгрунтаваным, а таму прывёў да страты канкурэнтаздольнасьці беларускіх тавараў.

Тым часам прэсавая служба Міністэрства эканомікі абвергла ацэнкі і высновы міжнародных экспэртаў, падкрэсьліўшы, што "няма сэнсу камэнтаваць заявы прадстаўнікоў Сусьветнага банку".

*Алесь ГРЫНЕВІЧ*

## Яны ведаюць, адкуль родам!

***Падведзеныя вынікі конкурсу "Мая Магілёўшчына" – на лепшую навукова-дасьледчую працу па краязнаўству сярод школьнікаў старэйшых клясаў.***

Усяго ў конкурсе, арганізатарамі якога выступілі абласны цэнтар турызма, краязнаўства і экскурсіяў разам з ГА "Кола сяброў", узялі ўдзел прадстаўнікі 19-ці раёнаў вобласьці і Магілёва – больш за 200 чалавек. Журы ацэньвала 112 работ у намінацыях "Летапісаньне родных мясьцінаў", "Трагічныя старонкі гісторыі", "Адраджэньне культурных традыцыяў", "Прыродная спадчына".

У выніку былі названыя 12 пераможцаў, якія ўчора былі ўзнагароджаныя дыплёмамі й каштоўнымі падарункамі. Сёньня іх чакае экскурсія ў Полацак. Акрамя таго, яшчэ каля 30-ці удзельнікаў конкурсу былі прызнаныя ляўрэатамі і ўганараваныя дыплёмамі і сувэнірамі.

*Уласная інфармацыя*

## ШТО НА ТЫДНІ... У ГЛУСКУ І КРЫЧАВЕ



***У мясцовым банкаўскім аддзяленьні ягоныя супрацоўнікі наладзілі продаж кілбасы.***

Трэба зазначыць, што купляюць яе добра – асабліва таму, што яна без "нацэнкі". Справа ў тым, што некаторыя прадпрыемствы ня могуць разьлічыцца грашыма за прадастаўленыя банкам крэдыты. Напрыклад, банк цяпер вымушана бярэ кілбасу ад бабруйскага камбіната ў якасьці аплаты за мяса, якое здалі туды калгасы.

***У раёне працягваецца дзяржаўная кампанія скарачэньняў.***

З гэтай нагоды назіраецца няпэўнасьць у рэдакцыі выканкамаўскай газэты "Радзіма". Увогуле, пакуль няясна, якім чынам будзе адбывацца рэарганізацыя выданьня. Калі напрыканцы мінулага году наклад газэты складаў 2022 асобніка, то цяпер – 1618.

*Ігар КІРЫН*



***Увечары 18-га красавіка на мясцовым чыгуначным вакзале супрацоўнікамі мясцовага РАУС быў затрыманы Вадзім Сьцефаненка, карэспандэнт незарэгістраванай газэты "Вольны горад".***

Па словах старшага лейтэнанта Жукоўскага, які кіраваў "апэрацыяй", існавала падазрэньне аб наяўнасьці ў журналіста наркатычных рэчываў. У выніку наклад чарговага нумару выданьня, надрукаваны ў смаленскай прыватнай друкарні, які ў меў пры сабе В.Сьцефаненка, быў канфіскаваны. А ўжо наступным днём неабгрунтаванасьць прэтэнзіяў сваіх падначаленых да "Вольнага гораду" пацьвердзіў начальнік Крычаўскага РАУС сп.Бутрымаў, які вярнуў наклад газэты ўладальнікам.

***У сярэдняй школе №3 адбыўся публічны прагляд сэрыі відэазастужак, якія прапагандуюць здаровы лад жыцьця.***

Адметнасьць гэтай праграмы палягала на тым, што агітацыйныя відэаматэрыялы стварыў вядомы ў горадзе рэжысэр-аматар і арганізатар дзіцячай кінастудыі Уладзімер Пракудзін.

Трэба адзначыць, што раней ягоным працам было прысуджанае першае месца ў адной з намінацыяў на конкурсе дзіцячых і моладзевых відэафільмаў, што адбыўся на пачатку году ў Менску пад эгідай UNISEF.

*Андрэй КУЗЬМІН*

# 19-ае красавіка. Цэнтар Эўропы...









Фота IREX



У мінулую пятніцу ў Менску міліцэйскія спэцпадразьдзяленьні надзвычай жорстка разагналі мірную акцыю пратэсту пад назваю "Так жыць нельга!".

Неадэкватная сілавая рэакцыя на мірную дэманстрацыю ўвесь тыдзень была і працягвае заставацца тэмаю крытычных камэнтароў дзяржаўных і палітычных асобаў Эўропы і Амэрыкі, замежных мэдыяў.

Каля сотні ўдзельнікаў акцыі былі зьбітыя й затрыманыя, некалькі чалавек трапілі ў шпіталі, аднак не пазьбеглі судоў і пакараньня. Праваабаронцу і журналіста Валерыя Шчукіна (60 год) і навукоўца Міколу Станкевіча (63 гады) непасрэдна з шпітальных ложкаў міліцыянты дастаўлялі на суд, дзе ім, атрымаўшым ад амонаўцаў небясьпечныя для здароўя фізычныя траўмы, яшчэ й вызначылі суткі арышту. Нашмат большы час, чым гэта дазволена законам, утрымлівалі ў пастарунках няпоўнагадовых падлеткаў. Зь пятніцы да панядзелку адміністрацыі спэцразьмеркавальнікаў адмаўляліся прымаць для "палітычных" затрыманых харчовыя ды іншыя перадачы...

Менск, Рэспубліка Беларусь. 19.04.2002г. Мірная грамадзкая акцыя "Так жыць нельга!".

## Этыкет па-беларуску

**У Міністэрстве замежных справаў РБ адбыўся брыфінг, пасьля якога пытаньне прыняцьця беларускім бокам спадара Гайкена ў якасьці кіраўніка КНГ АБСЭ ў Беларусі засталося без адказу.**

Але можна зрабіць выснову, што наўрад ці спадар Гайкен атрымае ўяздную візу. І хоць, згодна з дыпляматычнай практыкай, прычыны адмовы можна не камэнтаваць, пастаянны прадстаўнік РБ ў АБСЭ спадар Гайсёнак днямі выказаўся наступным чынам: "КНГ АБСЭ дыскрэдытавала й сябе, і арганізацыю ў цэлым у вачах значнай часткі грамадзянаў Беларусі".

Зразумела, што беларускі дыплямат найпрост трансьлюе пазыцыю Лукашэнкі, які ў аўторкавым выступе перад дэпутатамі ніколькі не зьмягчыў сваёй жорсткай пазыцыі да АБСЭ, патрабуючы ад міжнароднай (!) арганізацыю зьменаў у статуце, правілах і нормах працы.

Нагадаем, што АБСЭ насамрэч ёсьць толькі падразьдзяленьнем Рады Эўропы. Таму гэтымі днямі ў Стасбургу, здаецца, нарэшце скончаецца лагоднае стаўленьне да "маладога прэзыдэнта краіны, якая знаходзіцца ў пераходным стане". У кулюарах сэсіі Рады Эўропы ўсё больш гучна гучаць прапановы аб выпрацоўцы санкцыяў да Беларусі, якая падпісала ў свой час адпаведныя пратаколы й пагадненьні, але не выконвае іх. Такое ў сьвеце не прынята. Там жывуць па іншых правілах: калі застаесься ў прыстойнай кампаніі (дарэчы, можаш зь яе добраахвотна сыйсьці) – выконвай агульныя правілы. Калі гэтага ня робіш – цябе прымушаюць.

**Іна СТУДЗІНСКАЯ**

## Розныя погляды

***Назаўтра пасьля выступу Лукашэнкі з "штогадовым пасланьнем" расейскі тэлежурналіст Павал Селін быў выкліканы ў беларускае Міністэрства замежных справаў.***

Уласны карэспандэнт расейскай тэлекампаніі НТВ можа стаць чарговым нежаданым у Беларусі журналістам. Раней такая доля спасьцігла Аляксандра Ступнікава і Паўла Шарамета.

Чыноўнікі МЗС правялі з Паўлам Селіным выхаваўчую гутарку й вынесьлі яму "афіцыйнае папярэджаньне". Яшчэ адна такая ж заўвага будзе азначаць пазбаўленьне журналіста права працаваць у краіне.

У чым жа вінаваты перад краінай (перад Лукашэнкам, зразумела, што у нас – адно й тое ж) гэты расейскі карэспандэнт? У часе гутаркі яму выказалі прэтэнзіі за "аднабаковае асьвятленьне падзеяў", што выявілася, на думку чыноўнікаў МЗС, у сюжэтах аб дырэктарскіх арыштах, пажары ў Курапатах і маршы пратэсту "Так жыць нельга!". Павал Селін аднак не прыняў гэтыя прэтэнзіі, бо разам з рэдакцыяй навінаў НТВ лічыць, што падае падзеі такімі, якімі яны ёсьць, імкнучыся, дарэчы, адлюстроўваць у сюжэтах таксама й афіцыйны пункт погляду. Калі такога няма, вінаваты гэты самы "афіцыйны бок", што часта хаваецца ад тэлекамэры і пазьбягае выказваць свае думкі. Менавіта так было падчас акцыі 19 красавіка, калі ніводзін міліцэйскі чын не згадзіўся пракамэнтаваць, гледзячы ў тэлекамэру НТВ, затрыманьне вялікай колькасьці мірных людзей.

Пасьля гутаркі ў МЗС Павал Селін застаўся ўпэўненым, што ня робіць нічога звыш таго, што патрабуе ад яго прафэсійны абавязак. Такім жа чынам адрэагавала на папрокі журналісту і кіраўніцтва кампаніі НТВ, аб чым пазаўчора заявіў галоўны рэдактар яе інфармацыйнай службы.

Тым часам група рэдактараў беларускіх недзяржаўных газэтаў сустракаецца з эўрапейскімі палітыкамі і парлямэнтарамі ў Страсбургу, куды была днямі адмыслова запрошаная для абмеркаваньня тэмы свабоды слова і друку ў нашай краіне. Насуперак цьверджаньням афіцыйнага Менску аб наяўнасьці такой свабоды, эўрапейскія парлямэнтары з вуснаў прафэсіяналаў чуюць новыя прыклады зь беларускага журналісцкага жыцьця: Мікола Маркевіч і Павал Мажэйка (суд у Горадні); Юры Хашчавацкі (рэжысэр-дакумэнталіст) і Валеры Шчукін (карэспандэнт "Народнай волі"), якія атрымалі па 15 сутак арышту за ўдзел у акцыі пратэсту 19 красавіка; уняеньне без грамадзкай экспэртызы на зацьверджаньне дэпутатаў палаты паправак у Закон аб друку, якія зробяць немагчымым існаваньне незалежных СМІ. Каб у складзе рэдактарскай групы быў хто-небудзь з нашай вобласьці, ён мог бы распавесьці пра перасьлед крычаўскага "Вольнага гораду", "Шклоўскіх навінаў", асіповіцкай "Панарамы" і рэдактараў гэтых сьціплых выданьняў, вінаватых толькі ў тым, што пішуць не пад дыктоўку раённых адміністрацыяў...

А нэрвовая рэакцыя ў Менску на сумленную працу расейскага тэлежурналіста толькі ўдакладняе сытуацыю і яшчэ больш відавочна дэманструе: што ж яно такое, гэтая свабода слова, у разуменьні беларускай адміністрацыі.

**Генадзь СУДНІК**

КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

## Волю агнём ня выпаліць

***У ноч на 19 красавіка невядомыя падпалілі Курапаты. У выніку толькі цудам удалося ўратавацца тром валанцёрам, што знаходзіліся гэтай ноччу ў намёце.***

Алесь Поклад зь цяжкімі апёкамі пад раніцу быў адпраўлены ў шпіталь хуткай дапамогі. Міліцыя пакуль трымаецца той вэрсіі, што лягер успыхнуў ад "неосторожного обращения с огнём".

У мінулыя выходныя на месцы папялішча ад спаленага валанцёрскага лягеру адбылася талака, на якой працавалі некалькі дзясяткаў сябраў палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў.

Аднаўлены флагшток з нацыянальным сьцягам. У цэнтры былога пажару ўсталяваны адмысловы жалобны звон. Як напамін аб нечалавечай акцыі падпальваньня жывых людзей валанцёры вырашылі захаваць абгарэлыя рэчы, сабраўшы іх у своеасаблівы музэй пад адкрытым небам.

Мяркуецца, што ў гэтыя выходныя ў Курапатах пройдзе чарговая талака, бо шмат людзей узрушаныя й ўскалыхнутыя апошняй правакацыяй...

**Ганна СОУСЬ**
**Фота IREX**





# Толькі мы разам можам абараніць

***Магілёўскае гарадзкое грамадзкае экалягічнае інфармацыйнае аб'яднаньне "ЭНДА" пасьляхова правяло, як тое й абвяшчалася, нядзельную талаку на Палыкавіцкай крыніцы.***

Яна была прысьвечаная Міжнароднаму Дню помнікаў і мясьцінаў. У супольнай працы ўзялі ўдзел каля 30 чалавек – актывістаў "ЭНДА", грамадзкага аб'яднаньня "Кола сяброў", вандроўнага клюбу "Чароўны ўспамін", Палыкавіцкай праваслаўнай грамады і нават мясцовай піянэрскай арганізацыі. Практычна ўвесь дзень руплiўцы чысьцілі прыбіралі самае разнастайнае сьмецьце, што пакідаюць тут наведвальнікі прыроднага помніка. Усяго было сабрана каля 300 пакункаў з бытавым сьмецьцем. Талакоўцы таксама прадпрынялі захады да таго, каб спыніць эрозію глебы, засеяўшы берагі крынічнага ручаю адмысловым насеньнем.

Варта адзначыць, што гэта была першая грамадзкая талака на Палыкавіцкай крыніцы. Магчымасьцяў тых, хто адгукнуўся на заклік папрацаваць тут у мінулую нядзелю, хапіла далёка не на ўсё. Эколягі адзначылі, што яшчэ шмат сьмецьця засталося ляжаць пад елкамі і дрэвамі тутэйшага лесу.

Талака яшчэ больш выявіла вастрыню праблемы, яшчэ раз прадэманстравала, што шмат у чым лёс крыніцы залежыць не ад дзяржавы, а ад ахайнасьці і паводзінаў звычайных магілёўцаў.

Ці не таксама, зрэшты, як і ва ўсіх іншых нашых клопатах і справах? Але ж прырода застаецца найбольш пакрыўджанай і няздольнай да самаабароны. Заклікаем усіх да беражлівых адносінаў да навакольля!

***Паводле прэс-рэлізу "ЭНДА"***

***Фота С.Глазштэйна***







## Колькі існуюць – столькі змагаюцца

*У краіне.* **Днямі прайшоў чарговы зьезд Беларускага саюзу прадпрымальнікаў, удзельнікі якога выказалі пратэст супраць зьнішчэньня айчыннага бізнэсу.**

Зьезд выказаў нэгатыўнае стаўленьне да цяперашняй эканамічнай палітыкі ўладаў, якая да ўсяго перашкаджае паступленьню ў краіну замежных інвэстыцыяў. Аднак асабліва цяжкае становішча, як вынікала з выступаў дэлегатаў, склалася зараз у сфэры дробнага бізнэсу. Сярод іншага, гэта вялікая колькасьць ліцэнзаваных відаў дзейнасьці, завялікія падаткі, неплацяжы за набытыя тавары з боку бюджэтных арганізацыяў, бясконцыя праверкі, частыя паборы на "дзяржаўныя патрэбы" (зараз – на пасяўную).

Усё разам вымусіла дэлегатаў выказацца за ўзмацненьне праваабарончага аспэкту ў дзейнасьці сваёй арганізацыі.

Улады ж фактычна праігнаравалі запрашэньне ўзяць удзел у прадпрымальніцкім зьезьдзе.

***Паводле інф. агенцыяў***

*У Магілёве.* **Як вядома, нядаўна ў нас зьмяніліся старшыня гарвыканкаму і галоўны архітэктар.**

Новыя мётлы, як таксама вядома, па-новаму мятуць.

Аднак жа нашыя пачалі з вырашэньня састарэлай праблемы. Яны вырашылі прыбраць прыватных гандляроў з "фасадных" вуліцаў – Першамайскай, Ленінскай, Якубоўскага, пр.Пушкіна і пр.Міра. Кожны раз прыгнёт прыватнікаў тлумачыцца "барацьбой за прыгожы выгляд і чысьціню". І кожны раз улада не пытаецца ў жыхароў, а ці трэба ім гэтыя зьмены, ці зручныя яны. Бо ў выніку "навядзеньня парадку" больш як паўсотні гандлёвых кропак, што прапануюць гародніну й садавіну, гаспадарчыя дробязі, апынуцца на без таго перапоўненых рынках. Цяпер жа яны, як гаворыцца, пад рукой у тых, хто шукае, што набыць для вячэрвага стала, ідучы з працы.

Здаецца нам, што падобныя дзеяньні ўлады прыніжаюць прыватніка й не даюць яму працаваць там і тады, дзе і калі гэта найбольш зручна для людзей.

***Уласная інф.***



## МАСТАЦКАЯ ГАСЬЦЁЎНЯ "ТМ"

# Зь вялікім талентам у маленькіх сэрцах

***Днямі споўнілася 10 год дзіцячаму ўзорнаму ансамблю народнай песьні, музыкі, танцу й беларускага абраду "Ярыца".***

Ансамбаль існуе пры магілёўскім Цэнтры творчасьці. З кіраўнічкаю ансамблю Людмілай Анатольеўнай ЖУКАВАЙ сустрэўся наш аўтар, навучэнец СШ №35, актывіст грамадзкай суполкі Таварыства беларускай мовы Яўген Задзіран.

***– Як усё пачалося, Людміла Анатольеўна?***

– Калісьці я працавала хармайстрам у піянэрскім ансамблі *"Родничок"*. А неяк з малодшымі ўдзельнікамі яго амаль выпадкова вывучыла некалькі народных беларускіх песень. Гэта і нам самім, і ўсім вельмі спадабалася. Вось і вырашылі стварыць фальклёрную групу, хаця раней я гэтага музычна-сьпеўнага напрамку ні ў вучэльні, ні пазьней у інстытуце культуры не вывучала й ня ведала. Давялося яшчэ раз павучыцца на адмысловых курсах. Здаецца, паколькі нам ужо 10 год, атрымалася...

***– Адкуль у ансамбля назва такая прывабная?***

– Нашай першай песьняй была народная "А ў гародзе – ярыца". Слова гэтае азначае маладое зерне, малады хлеб. І мы такія ж маладыя! Так і пайшло.

***– Для маладога, як Вы кажаце, ансамблю, вы вельмі прызнаныя.***

– Гэта сапраўды прыемна. Мы сталіся нядаўна ляўрэатамі рэспубліканскага фэстывалю "Усе мы родам зь дзяцінства". Неаднойчы займалі высокія ступені ў розных аглядах і на конкурсах. Ведаюць нас у замежжы. Штогод бываем з канцэртамі ў Польшчы, Нямеччыне. Былі ў Бэльгіі, Люксэмбургу. Для кожнай паездкі рыхтуем фальклёрны нумар з традыцыяй той краіны, дзе мяркуем выступіць. Ужо пяты год носім пачэснае званьне ўзорнага ансамблю.

***– Хто Вашыя творчыя памочнікі?***

– Канцэртмайстар Алена Карпава, балетмайстар Мікалай Рубцоў, дырыжор Аляксандар Красік, харэограф Раман Пуцілаў. Мы – адзіны творчы калектыў, для якога самае галоўнае – таленты, здольнасьці нашых выхаванцаў. Калектыў наш дружны і адданы. Адсюль посьпехі. І, зразумела, ад таго, што надзвычай шмат у нас таленавітых падлеткаў, якія чуюць і адгукаюцца душой на сапраўдную народную мелёдыку і на тое, што завецца матчынай песьняй...



## ДА ЧЫТАЧОЎ І ПРЫХІЛЬНІКАЎ

# Яшчэ сустрэнемся...

Цешыць тое, што нашым невыпадковым чытачам ня трэба доўга тлумачыць цяперашні сацыяльна-эканамічны і грамадзка-палітычны стан краіны. Больш-менш упэўненае існаваньне ў ім для незалежнай газэты заўсёды было і застаецца амаль невырашальнай праблемай. Аднак жа нашыя 5 год жыцьця сьведчаць і пра тое, што нават нягледзячы на вымушаныя перапынкі ў працы, разам мы здольныя забясьпечваць гучаньне Вольнага слова і Праўды. На жаль, безь перапынкаў, якія патрэбныя на пошукі і назапашваньне неабходных сілаў і сродкаў, не абыходзіцца...

Вось і зараз мы вымушаныя разьвітацца з вамі як меней на травень. Нам менавіта гэты месяц падаўся найбольш зручным для, спадзяемся, непрацяглага разьвітаньня. У цяперашняй РБ – практычна копіі БССР – травень застаецца ў календары, успрыманьні і, адпаведна, адзначэньні як найбольш чырвона-савецкі месяц году. А паколькі мы з вамі ўсё ж імкнемся "выдаўліваць" зь сябе, хоць бы патроху, раба – месяц гэты ў сэньсе ягоных падзеяў і мерапрыемстваў кранае нас мала. Зоймемся, шаноўныя сябры, сабой – сваімі думкамі, сваёй адукацыяй, сваімі развагамі аб сутнасным і аб месцы сваім у яго агульным дасягненьні.

... Не сумуйце. Яшчэ сустрэнемся!

***"ТМ"***

Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Сьпірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 17. Наклад 1000 асобнікаў. Падпісана да друку 25.04.2002 г. а 17.05